ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem. ЦАНА 30 ГРОШ.

# Маланка

ЧАСОПІС ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

5. XII. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ ШТО ДВА ТЫДНІ! № 11.

## Запрагу я тройку борзых!..

Беларускія сельсаюзьнікі і хадэкі, якія ўваходзілі ў склад Украінска - Беларускага Пасольскага Клюбу, пастанавілі адлучыцца ад гэтага клюбу і залажыць уласны „Беларускі Пасольскі Клюб".

(*З газэт*)






**Пасол Ярэма**. Ну, конікі, го—го—го!.. Сьмялей, смаглей! Ты, Сьцяповы, ня віляй, А Рагуля ня хмыляй, ды Карузлы пасабляй, — шпарчэй, дружней ударце разам, скранеце хоць троху сельсаюзьніцкі воз з месца, а то ён заіржавеў і сплясьнеў, на месцы стоячы!..




# Эх, каб грошы!..

Век дваццаты—век харошы,
Абы грошы, толькі грошы...
Стогнуць вось сяляне нашы,
А каб грошы, эх, каб грошы!
Ўсе падаткі аплаціў-бы,
Пана войта загадзіў-бы,
Ён ня лаяўся-б „па маме“—
Ня крычаў-бы: „вон зтонд хаме“!
А падаў-бы ручку й... проша...
Ах, каб грошы, толькі грошы!..
Вязу пану масла, сыры
(Грошай трэба, дзеш іх стырыш?)
Пан, бач, смачна зьесьці хоча,
Ты-ж глядзіш: жывот аж квохча!
Хоць і змамзіў бульбы з кошык...
А каб грошы... эх, каб грошы!
Закупіў-бы рыбы, мяса,
Кілё кракаўскай каўбасы,
Хлеба белага з паўторбы
І, дальбог, адзін упёр-бы!
Вось абед быў-бы харошы.
Эх, каб грошы, тыя грошы!..
Захацеў я ажаніцца,
Ня йдзе дзеўка,—бач, баіцца
Бедны, кажа, ён—галота.
Амарыкант-ж як чорт з балота,
Пяцьдзесят гадкоў хлапчыне...
— Падабаецца дзяўчыне:
Ен і міленькі й прыгожы,
А праз што?—бо мае грошы!
Эх, каб грошай мне з паўпуда
Вось, дальбог, зрабіў-бы цуда;
Ну й пажыў-бы (я-ж ня жулік).
Для дзяўчат старых прытулак—
Гэта перша—збудаваў-бы.
Папу трошкі, ксяндзу даў-бы,
Паўлюкевічу,—бо чуў я,
Што под платам ўжо начуе—
Праз бок лезе панска ласка...
Эх, каб грошы—ўжо й Параска
Не глядзела-б крывым вокам,
Не хадзіла-б руба, бокам...
Але ўзяць дзе—вось пытаньне?
Ад сьвітаньня да зьмярканьня
Льлецца пот: працуй, цягайся,
За ўсё бульбай аддувайся,
— Бульба парана, пячона,
Бульба сёньня, бульба ўчора,
Ўжо трыбух той, як калода!
А й бяз бульбы няма ходу...
Век дваццаты, век нязгоршы,
Ўсіх купіць можна за грошы...

М. Васілёк




••• Кажуць, што рэдактар „Беларускага Дня“ Умястоўскі, які некалькі разоў пераносіў сваю рэдакцыю з кватэры да кватэры (залежна зд высокасьці субсыдыяў), маніцца нарэшце перанясьціся з рэдакцыяй аж у Пэрсыю, аб якой ён цяпер піша прыемныя ўспаміны. У Пэрсыі яму прапануюць становішча галоўнага акцызьніка ў табачным манаполі. Паперу ад „Беларускага Дня“ шах пэрсыдзкі мае ўжываць для нейкіх сакрэтных мэтаў.

••• Кажуць што „Дзядзька Тодар - Коўскі — (вярні, Божа, лад маскоўскі“!) з прычыны ліквідацыі „*Бѣлорусской хатки*“ мае падаць да належнае ўлады мэморыял аб зацьверджаньні статуту„Саюзу былых людзей, кантрольных жанчын і жабракоў“ у якім, ласы на грошы, дзядзька Тодар займе пасаду скарбніка.

••• Кажуць, што „Спадар“,—вялікі аматар боек і авантураў—купіў рэвальвэр, фінскі нож, гумовы кій, жалезную рукавіцу, раменны бізун і шмат іншай іншасьці, **як— ідэйны аргумэнт для сваіх ворагаў.**

Дрыжэце анты - спадары і антыспадарыхі!..

••• Кажуць, што на бацюшку Ковша зыйшоў дух сьвяты, які будзе рабіць розныя „цуды“ каб правясьці зьезд Т-ва Беларуск. Школы ў духу беларуска-польскай санацыі.

••• Кажуць, што вядомы ў Наваградчыне Чатырка зьбірае грошы на падарожу ў Рым, каб адтрымаць з рук Мусоліні інструкцыю на ўтварэньне „фашыстаўска - санацыйных“ арганізацыяў у Заходняй Беларусі.

••• Кажуць, што некаторыя беларускія жанчыны, якія ходзяць пераважна ў каракулевых польтах, рыхтуюцца да „балю - маскараду“ ў Вільні. На гэтым балі будзе абрана на заходня эўропэйскі манер **„Каралева Беларусі“**. Даведваемся, што на гэта становішча ўсільна прэтэндуе адна з быўш. кандыдатак у сэнатары.

••• Кажуць, што правадыры „Беларускай санацыі“ маюць страшыць „Лукішкамі“, пеклам, агнём, вадой і ўсімі плягамі эгіпэцкімі тых дэлегатаў - беларусаў, якія прыедуць 10-га сьнежня ў Вільню на зьезд Т ва Беларуск. Школы і не падпарадкуюцца іх загаду.

••• Кажуць, што рэдактар „Маланкі“ сушыць сухары з хлеба, каб забясьпечыцца на час доўгіх гасьцінаў у **„Доме адпачынку для беларускіх рэдактароў“** (Лу—кішкі), куды яго гасьцінна запрашаюць з прычыны дзьвюх апошніх канфіскатаў „Маланкі“.

# „ЦЮЦІК“.




*Служы пану верна...*
(З беларуск. прыказкі).

Польскія газэты падаюць, што ігра ў лёто ў „Беларускай Хатцы“, на якую мае канцэсію Т. Вярнікоўскі, з дн. 1 сьнежня с. г. ліквідуецца.

Раскажу вам байку-чутку:
Гаспадар нек зазлаваў
І на зіму „цюцькі“ будку
Раскідаць зусім пачаў.
Каштавала-ж будка многа,
Трэ‘ было пабудаваць!
І ў ёй „цюціка“ старога
Усё на прывязі трымаць,
І карміць, як лярву тую,
Ды з талеркі дарагой,
І падсьцілку ня бы якую,
Кожны дзень даваць на гной.
Цюцьку мылі, шаравалі
Парашкамі ланцужок,
І штотыдзень накладалі
„Цюцьцы“ новы фартушок.
„Цюцік“ толькі ад‘ядаўся
І ў той будцы спаў - ляжаў,
На праходжых ня кідаўся
І слабенечка брахаў.
Толькі часам, як праходзіў
Гаспадар ля будкі тэй,
„Цюцік“ ёкатам заводзіў
Песьню вернасьці сваей,
І да ног яго кідаўся,
І скакаў, хвастом віляў
І аб боты шараваўся
І у вочы пазіраў.
Гаспадар абы схаваўся,
„Цюцька“ ў будку, і ляжыць!
Толькі ведаў — азіраўся,
Каб ізноў яго злавіць.
„Цюцька“ добра прылаўчыўся,
Як змыляць гаспадара.
Бо-ж ён „цюцікам“ радзіўся —
І ня тое, што шчаня.
Гаспадар той быў багаты
І нічога не жалеў,
Толькі-б цюцік зухаваты
Той сабачы выгляд меў,
Але праца і клапоты
Усё на марнае ішлі,
Бо ад „цюціка“ работы
Хоць ты трэсьні — эні-ні!
Гаспадар чакаў ня мала,
Каб той „цюцік“ акрыяў,
За ўсё тое хоць-бы стала,
Што на цюціка аддаў...
Аж нарэшце агледзеўся,
Схамянуўся гаспадар,
Што той цюцік састарэўся
І нягодны інвэнтар!...
А раз гэтак: — „Вон, паскуда,
Са двара гаспадара!
І сабача тая „буда“
Не сьмярдзела-б больш яна!“

І...і...і.

## Нічога не паможа.

**Пані** (да служанкі): — Я бачыла, Ганна, як цябе цалаваў паштальён, які прыносіў нам пісьмы. Забараняю табе больш рабіць гэта ў маім доме. Ад сёнешняга дня я сама буду адтрымліваць пісьмы.

**Служанка:** Э, панечка, гэта нічога не паможа,—ён такое старое пэўне ж цалаваць ня будзе.

*М.*

# Пакорнае цялятка — дзьве маткі сьсе.

Пасол Янка Станкевіч дастаў „сryбраны“ мядаль за ўдзел у паўночнай выстаўцы ў Вільні. *(З газэт).*



**Пан:** Старайся, „Спадарык“, старайся, за верную службу і другі мядаль дастанеш!...

### Добра пільнаваў.

Судзьдзя судзіць урадоўца, які абвінавачваецца за растрату казённых грошай.

**Судзьдзя:** — Трэба было пільнаваць казённыя грошы, як свае уласныя.

**Абвін:** — Я - ж так і рабіў, пане судзьдзя, бо я свае ўласныя таксама прагуляў.

### Добры працаўнік.

Асаднік прагуляў пазычку і шукае пасады. Напісаў паданьне і падае да павятовага старасты. Староста разьвёў рукамі і кажа:

— У нас няма падходзячай для вас працы.

— Глупства. Мне патрэбна толькі пасада, а працы я ня шукаю.

### На балі „Полякуф Крэсовых“.

— Пачакайце хвіліначку, я вас пачышчу.

— Ня турбуйцеся дарэмна, мяне ўжо абчысьцілі.

### Жывы прыклад.

— Кажуць, што сэквэстратара Мачульскага за п'янства са службы прагналі. А ён - жа ў касьцеле да „Брацтва Тшэзвосьці“ належыць...

— Што з таго, што належыць. Вось ён уласным прыкладам і паказвае людзям, да чаго гарэлка можа давясьці.

# Мой сон аб санацыі.

Заснуў я ня так, як гэта людзі робяць.

Ня ўночы, значыцца.

А ўдзень...

Чаму ўдзень, зараз раскажу.

А таму, што некалі, ў маладыя гады, жыў колькі месяцаў у адным пакоі з вечным расейскім студэнтам.

І студэнт гэты кожны раз, як ня меў за што папалуднаваць, дык клаўся сярод белага дня і хроп.

Мучыў сябе сном чалавек і лічыў, што соннасьць — гэта мука меншая, як голад.

Я верыў свайму прыяцелю, і сам ратаваўся ў галодных выпадках яго спосабам.

З таго часу шмат што на сьвеце зьмянілася. Стары сьвет затануў назаўсёды, да жыцьця паўстае новы сьвет. Яно то сьвет як-бы й той самы, толькі на іншы лад ён выглядае...

Ужо і Польшча дзесяць гадоў свае незалежнасьці сьвяткуе, а мне горай, як калісь пры галодным студэнце.

Ну, проста, хоць кладзіся і памірай здаровым.

Успомніў я свайго калішняга прыяцеля ў дзень польскае незалежніцкае ўрачыстасьці, лёг сабе (ведама не ад сытасьці) і гэтак усе маніфэстацыі польскага патрыятызму ў Вільні праспаў.

Ну-ж і насьнілася мне за гэты час!

Агульны тон урачыстасьцяў захапіў нават і мяне сонна - галоднага.

Напаў нейкі незразумелы патрыятызм і на мяне.

Ляжу і сьню:

Вось, здаецца, выпала мне вялікая роля санатарам быць. Толькі заўважце, не сэнатарам (дзе мне там аб гэтым думаць), а проста гэткім санатарам, які мае аздаравіць нашае заходня - беларускае жыцьцё, санацыю гэту самую слаўную ў ім правясьці, бо як - жа ж без яе?

Тут ужо, як кажуць, і сам кароль віленскага руху беларускага за яе паціху браўся, ды нешта а ні-ні...

Нічога ня выходзіць.

Ня выйшла і ў мяне.

Але як дзіўна пллялося, як спрытна плянавалася, якраз як у байцы якой, і вось на табе:

Прачхнуўся і... капут. Няма нічога...

А сон пачаўся з таго, што ўсе нашыя дзеячы і нават людзі з прэтэнсіямі на дзеячоў (апрача самых радыкальных) даручылі мне ўсёю грамадою сваёю мандат на санацыю:

— На, — кажуць, — што хочаш рабі, толькі рабі нешта, годзі неба дыміць сваім гультайствам.

— Выбачайце... Дзякую за гонар, дабрадзеі, — адказваю я ім, — з чаго-ж я пачну, калі ў мяне нават і боты з лонскага року яшчэ

## На дакладзе ў „Сельсаюзьнікаў“.

— На вуліцы мусіць дождж ідзе?

— Чаму ты так думаеш?

— Ніхто расходзіцца ня хоча. Усе сядзяць, зяваюць і быццам пасла слухаюць.

## Таксама глядзела.

— Эх, у нас на кірмашы бойка была. Вёска на вёску ішла.

— А чаго-ж паліцыя глядзела?

— Паліцыя таксама глядзела...

## У Судзе.

— Сьведка, як ваша імя і прозьвішча?

— Мікола Касаты.

— Колькі гадоў?

— Восемдзесят два.

— Дзеці ёсьць?

— Нямашака.

— Сэкрэтар, запішэце, што дзяцей няма. Ну, расказвайце, Касаты, што вам ведама ў гэтай справе?

— Іду я, значыцца, з сваім сынам Гаўрылам...

— Пачакайце. Вы-ж казалі, што ў вас дзяцей няма.

— Але няма.

— Ну, кажэце далей.

— Іду я з сынам Гаўрылам праз поле...

— З сынам Гаўрылам? А вы-ж казалі, што ў вас дзяцей няма.

— Ну, няма.

— А сын Гаўрыла?

— Якое-ж ён дзіця... Яму ўжо пяцьдзесят гадоў стукнула.

*М. Драч.*

## Ніяк эўропэйская культура не прышчапляецца.




**Прадавец** (у коопэратыве); Ну, і някультурны Беларускі Народ, я яму і віна, і памаранцаў і шакаляды прапаную, а ён адно газы і мыла просіць...

бяз ніякае санацыі іх нашу. А на вуліцы вун як!

— Ну, што там боты, — чую з усіх бакоў. — Скончылася, браце, твая галіта! Самаходамі будзеш езьдзіць, з панамі рауты спраўляць. Праца, рэпрэзэнтацыя, банкет за банкетам, толькі трымайся.

— Аўтаномія, ці што надходзіць? —пытаюся, як астаўпелы.

— Сьвята! - кажуць сябры, — хоць незалежнасьць сабе закладай, усе падтрымаем. Толькі людзей давай, бяры скуль хочаш...

Сярод прысутных я заўважыў аднаго матэматыка з гэткімі вострымі мазгамі, што ён табе якія хочаш цыфры зараз да парадку давядзе.

— Колькі трэба вураднікаў? — пытаюся ў яго,—настаўнікаў? судзьдзяў?... войтаў?... валасных пісароў дзе набраць?...

— Восем тысяч дзевяцьсот дзевяцьдзесят чатыры,—адказаў мне матэматык,—во колькі добра граматных беларусаў патрэбна.

— А колькі-ж у нас усяго іх набярэцца?—пытаюся далей.

Матэматык пакапаўся ў нейкіх паперах, злажыў разам нейкія цыфры і кажа:

— О, ёсьць! Больш як два разы гэтулькі.

І пачаў тут я, разлажыўшы перад сабою вялізарную мапу „крэсув всходніх“, назначаць на пасады беларусаў:

— Яхімчык у Горадзен, Пятруковіч у Наваградак, Мумра ў Ліду, Спадарок у Ашмяну, Ліхачык у Вялейку, а ў Радашкавічы Жучок.

— Ды што ты тут усіх вастрожнікаў у людзі выцягваеш!—закрычалі ўсе нашыя родныя санатары, што сабраліся каля мяне. — Што ты, пасьля блёкату, ці што? Гэта-ж усе твае кандыдаты на Лукішках перабывалі... Гэткіх нельга нікуды высунуць.

— Дык і сам-жа ж я крыху пабываў на Лукішках,—крычу ў адказ.— Калі санацыя, дык санацыя, няма чаго грахі старыя ўспамінаць.

— А хто-ж іх зацьвердзіць, вось дурная мазгаўня!—крычаць яшчэ галасьней сябры. — Мы да цябе і зьвярнуліся, думаючы, што раду якую дасі; а гэтак мы й самі ўсе ўмеем:

Пайшоў у васторг, набраў там беларускае інтэлігэнцыі дый назначай яе, куды хочаш...

— А дзе-ж я вам вазьму хоць аднаго беларуса, сяк-так інтэлігэнтнага, які ніколі Лукішак не адведаў?—пытаюся я ў шаноўных санатараў. — *Збродніцэ племе* — самі разумееце.

— То-то, брат,—адказваюць яны.

— То-то,—падхапляю і я, павярнуўшыся на другі бок...

Так і лопнулі ўсе мае санатарскія пляны.

За вакном чуўся знаёмы мотыў маршу аднаго з быўшых сібірскіх палкоў. А ў тон яму натаўп нешта пяяў папольску.

**Picolo.**

# Дабрадзеі XX-га веку.



**Першы пан:** Ещце, пане, єщце,—ведайце старапольскую гасьцiннасьць!..

**Другi пан:** Шчыра дзякую — сыт, як кабан.

**Першы пан:**—Ещце, жывата не шкадуйце, а я лупiнкi i костачкi на кухню занясу,— заўтра субота—прыдуць жабракi прасiць мiласьцiны, дык я iм аддам, хай сабе пажывяцца.

---

**М. Зошчэнко.**

## Лiманяда.

Я, разумеецца, чалавек—не выпiвака. А як здарыцца, што калi i вып'ю, дык мала—вось так сабе дзеля рэзоннасьцi, або слаўную кумпанiю падтрымаць.

Больш дзьвёх бутэлек мне адразу цяжка выпiць. Здароўе не дазваляе. Аднаго разу, памятую, у дзень сваiх iмянiнаў я чацьверць выпiў.

Але было гэта ў маладыя, моцныя гады, калi сэрца ў грудзёх сiльна бiлася i ў галаве бегалi розныя думкi.

А цяпер старэю.

Знаёмы вэтэрынарны фэльчар, таварыш Птушкiн, надовячы аглядаў мяне, i навет, спужаўся. Задрыжэў.

— У вас,—кажа,—поўная дэвальвацыя. Дзе,— кажа,— печанi, дзе мачавы пузыр, распазнаць, — кажа, — няма нiякай магчымасьцi. Вельмi,—кажа,—вы зьезьдзiлiся.

Хацеў я гэта фэльчара сьпярша пабiць, але пасьля ўспакоiўся.

— Дай,— думаю,— перш схаджу к добраму доктару, пераканаюся.

Доктар нiякай дэвальвацыi не знайшоў.

— Органы, — кажа,—у вас досыць у акуратным стане. I пузыр,—кажа,—зусiм нармальны i не працякае. Што-ж датычыць сэрца, дык i сэрца зусiм добрае, навет,— кажа,— шырэйшае як трэба. Але, кажа,—пiць вы перастаньце, iнакш вельмi проста, сьмерць можа здарыцца.

А памiраць, разумеецца, мне не ахвота. Я жыць люблю. Я чалавек яшчэ малады. Мне толькi-толькi гадкоў з пяток, як трыццаць мiнула. Можна сказаць у поўным росквiце сiлаў i здароўя. I сэрца ў грудзёх шырокае. I пузыр, галоўнае, не працякае. З такiм пузыром толькi жыць ды пацяшацца.

„Трэба,—думаю,—запраўды пiць кiнуць“.

Падумаў i... кiнуў.

Ня п'ю i ня п'ю. Гадзiну ня п'ю, дзьве гадзiны ня п'ю.

А пятай гадзiне ўвечары пайшоў, разумеецца, абедаць у харчэўню.

Зьеў капусту. Пачаў варанае мяса есьцi—ахвота выпiць.

„Заместа,—думаю,—вострых напiткаў папрашу чаго-небудзь мякчэйшага—квасу цi лiманяду“.

Клiчу.

— Гэй,— кажу,— хто мне абед падаваў, дай мне, такi-сякi, кажу,—лiманяды!

Прыносяць мне, разумеецца, лiманяду на панскай тацы. У карафцы. Налiваю паўшклянкi.

П'ю я i чую: здаецца, гарэлка. Налiў яшчэ. Далiбог, гарэлка. Што за чорт! Налiў рэшту—самая натуральная гарэлка.

— Нясi,—крычу,—яшчэ!

„Вось,—думаю,— пашэнцiла“.

Прынёс яшчэ!

Iзноў пакаштаваў. Нiякага сумлiву няма—самая натуральная!

Пасьля, калi грошы плацiў, зрабiў усё-ж яму увагу.

— Я,— кажу,— лiманяды прасiў, а ты што падаў, такая—сякая твая галава?

Той адказвае:

— Гэта ў нас заўсёды лiманядаю завецца. Такая мода яшчэ з старых часоў засталася... А праўдзiвае лiманяды, выбачайце, ня трымаем — нiхто нiколi ня пытаецца.

— Нясi, — кажу, — яшчэ апошнюю.

Вось чаму i ня кiнуў пiць. А жаданьне меў вялiкае. Толькi вось абставiны перашкодзiлi. Як кажуць—жыцьцё дыктуе свае законы. Трэба падпарадкавацца...

**Пераклаў Я. М.**

## Самапэўны.



— Усе кажуць, што я лайдачу, п'янству...—нябось такія, як я, на вуліцы не валяюцца...

## Добры аргумэнт.

Судзьдзя да абвінавачанага:

— Скажэце, пане, што вам стукнула ў галаву, пацалаваць зусім незнаёмую вам жанчыну.

— Калі мае знаёмыя такія неахайныя і брыдкія, што і вы, пане судзьдзя, напэўна іх не цалавалі-б.

## Куды ня кінь—усюды клін.

Судзьдзя да сьведкі:

— Кажы праўду, бо будзеш караны.

— Ведаеш, панок, бывае часам, што за праўду яшчэ больш караюць.

## Колькі кілёмэтраў.

Пан пытаецца ў бабы:

— *Іле стонд кілёмэтрув до постэрунку?*

— Не разумею папольску.

— Колькі вёрст да паліцыі?

— Вярсты тры будзе.

*Кламеш,—павінна быць вецэй!*

— Перш было пяць, але пастухі дзьве вярсты спалілі.

*К. Зерня.*

## Добра ня ведае.

Поп пытаецца ў хлапца:

— Скажы, Паўлюк, хто цябе стварыў.

— Ня ведаю добра, але... тата хваліўся, што гэта ён...

## Паступова зьніжаецца.

Маладыя муж і жонка ў першыя дні свайго шлюбу спацырують па дарозе за местам. На дарозе ляжыць вялізны камень.

— Зважна, маё золатца, не спатыкніся!—кажа ён ёй.

Праз год пасьля шлюбу па тэй самай дарозе:

— Ці-ж ты ня бачыш, куды йдзеш, глядзі пад ногі!—спакойна кажа малады муж.

— Праз пяць гадоў:

— Куды прэшся, сьляпая варона! Бачыш, камень ляжыць...

## Навет не абідзеўся.

Янку „С“ спаткаў на вуліцы яго заядлы вораг і ўдарыў па твары. „С“ аблізаўся, зьнімае капялюх і пытаецца:

— Выбачайце, што гэта — жарт, ці зьнявага?

— Зьнявага.

— Ну і добра, што зьнявага, бо я такіх жартаў ня люблю.

## Прывітаньне.

*(Па Рудадньскаму).*

Навары́ў шляхцюк, напёк,
І ксяндза чакае.
Ксёндз як-толькі на парог
Ён яго й вітае;
„Пахвалёны ў добры час...
Добра, што зьявіўся!
Дзе-ж трымала ліха вас?
Аж чакаць змарыўся.
А тут сабака дзе брахне,
Ці сьвіньня зарохча,
Так і думаем усе,
Што то вы, пан ойча.
Але дзякуй, што прыйшлі.
Пеце гару з перцам,
Сабе рэжце печані,
Кройце-ж сабе сэрца!“

## Як да дурня.

Едзе Янка у вагоне,
У куточку там сядзіць,
На паноў тых і на паняў
Усё дзівуецца, глядзіць.
Закурыў сабе ён люльку
Дымам пыкае, плюе,
А паны ўсё круцяць носам,
Чхаюць так, што страх бярэ.
І на Янку пазіраюць,
Як на дзікага зьвяра,
Вось адзін пан і пытае
Лапцявоза - мужыка:
— „Ці бываў ты дзе на сьвеце,
„Як гавораць, між людзей?
— „Чаму не“,—той Янка кажа:
Пабывалася, ой-ей!“ —
Быў у Горадне, у Вільні,
У Пазнані пабываў,
У Нясьвіжы, і ў Варшаву
Нават лёс мяне ганяў“.
— „А скажы, па колькі дурняў
Там на рынку прадаюць?“
„Гэта, пане, як да дурня,
Дзе якога пападуць.
Дурань пан — заплацяць болей,
Бо на выстаўках дзяржаць,
Мужыка-ж, як я, у лапцях,
Дык зусім ня хочуць браць!“...

**Улад—Ініцкі.**

## Ізноў конфіската.

Выпушчаная 30 лістапада с. г. у падмогу „Маланцы“ аднаднёўка „Новая Маланка“ па загаду п. Старосты Гродзкага на м. Вільню сконфіскована за фэльетон **Янкі Барысаўскага** „Усемагутны паліцыянт“ і за карыкатуры пад назовам „Часы зьмяняюцца“...

Варта ад'значыць, што фэльетон „Усемагутны паліцыянт“ быў надрукованы ў № 9 „Маланкі“ і... сконфіскованы.

Акружны Суд у Вільні дэцызіяй сваей з дн. 29/IX с. г. за № 872/28 (Z. K) паведаміў рэдакцыю „Маланкі“, што конфіската гэтага фэльетону не зацьверджана.

Гэта дало сьмеласьць выдаўцу „Новай Маланкі“ зьмясьціць вышэй успомнены фэльетон у сваёй аднаднёўцы.

**Рэдакцыя.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**
„МАЛАНКА“

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес,—50 цэнт.

## „Шчырае“ каханьне.

— Вох, Парасачка, мая!..
— Чаго-ж ты?
— Нічога,—люблю цябе так, што і сам ня ведаю.
— Ну і што.
— Прысягаю, зорачка мая, што люблю цябе, вох як люблю!..
— Праўду кажаш?
— Праўду, сонейка маё, праўду... Сватоў да цябе ў нядзелю прышлю.
— Бацькі мяне не аддадуць.
— Чаму?
— Казалі, што перш старшую сястру аддадуць.
— Няўжо?
— Дапраўды-ж казалі!
— А пасагу шмат дадуць?
— Ой, шмат! Зямлю, карову, авечку і сто...
— А ты ня ведаеш, сястра ці пашла-б за мяне? *Мак.*

## Каштаўнейшы за пана.

Дурань ты, я цябе сто разоў магу прадаць і купіць! — крычыць пан на парабка.

— Бо я нешта варт, калі мяне купляюць. Вось пана, каб хоць сто разоў насіў на кірмаш, дык ні разу не прадаў-бы, бо гультай нікому не патрэбны.

## „Абаронца“ коопэрацыі.

— Я коопэрацыю бараню, як сваю ўласную галаву.
— Ты-ж, здаецца, да коопэрацыі не належыш?
— Гэта нічога, але затое я ў загадчыцу коопэратывы закаханы і ў яе дарэмна сталуюся.

## Прычына.

— Я бачу, што вы грам. М... акуратна прыходзіце на беларускія лекцыі. Вы пэўна навукай вельмі цікавіцеся?
— Ня вельмі, але што-ж я маю рабіць, калі дзеці дома спаць не даюць.

## Не падабалася.

Кур'ер староства прынёс лякарства ў аптэку і кажа:
— Наш пан рэфэрэнт казаў назад лякарства прынясьці, бо на пляшцы напісана „прыймаць два разы ў дзень“, а ў яго прыймо толькі раз у дзень—ад 10 да 12-й.

## Службісты...



**Камэндант пастарунку;** —Ты глуханемы?!
**Арыштованы:** —Не, пане, не глуханемы,—гутару і чую нармальна.
**Камэнд пастар.:** Брэшаш! А чаму-ж тут у паперах напісана; глуханемы?



Рэдактар М. Луцэвіч. — Выдавец: Я. Маразовіч. Друк. Крэйнэс і Кавальскі, Вільня, Вялікая, 39.